


№17 (110), снежань 1996 г.

**...Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць.**

*Ларыса Геніюш.*

*У чэрвені 1994 года ў часе прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў нашай газеце быў надрукаваны матэрыял Зянона Пазьняка пад назвай “Выступ, які не адбыўся на 200 угодках паўстаньня Касьцюшкі”.*

*Тады многія дэмакраты палічылі гэтую публікацыю ў “Выбары” правакацыяй, з-за якой лідэр БНФ, кандыдат у прэзідэнты, можа страціць патэнцыяльных выбаршчыкаў у Віцебску, дзе моцныя прарасейскія настроі. На сустрэчы ў Віцебскай абласной філармоніі нехта даслаў запіску з асуджэннем дзеянняў рэдакцыі. Але Пазьняк не пагадзіўся з аўтарам гэтай запіскі.*

*Сёння мы зноў друкуем той выступ, бо лічым, што пасля апошніх палітычных падзей на Беларусі ён (як і артыкул З.Пазьняка “О русском империализме и его опасности”) набывае яшчэ большую актуальнасць.*

*Такім чынам, Зянон Станіслававіч, Вам слова!*

Глыбокапаважаныя спадарыні і спадары!

Споўнілася 200 гадоў ад пачатку вызвольнага змаганьня ў Беларусі і Польшчы пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі, Тамаша Ваўжэцкага і Якуба Ясінскага.

Змаганьне Касьцюшкі падвяло рысу пад стагодзьдзямі перманентнай вайны Беларусі з імперскай Маскоўшчынай. Час, калі Беларусь была ад мора да мора і, змагаючыся з Захадам, жалезнай рукою трымала Усход,— мінуў. Нямеччына і Маскоўшчына аб’яднаціся і праглынулі Беларусь і Польшчу. Канфедэрацыя—няўстойлівае ўтварэньне і ніколі не была выгадная для краінаў, што яе стваралі. Рэч Паспалітая скончылася. З 1794 года пачалася эпоха нацыянальна-вызваленчых рухаў і незалежных дзяржаваў. Пачалася барацьба за вызваленьне Беларусі.

Мінула пяць пакаленьняў, прагрымела пяць паўстаньняў. Утварыліся незалежная Беларусь і незалежная Польшча. Дзевяць месяцаў праіснавала без арміі Беларуская Народная Рэспубліка. У сьнежні 1918 года яна была акупаваная рускімі бальшавікамі. Настала доўгая чырвоная ноч камуністычнага тэрору і вынішчэньня беларускай нацыі. І толькі ў жніўні 1991 года над Беларусяй затрымцела сьвітаньне. Незалежнасьці Бацькаўшчыны дамогся Беларускі Народны Фронт. Аднак грамадзтва аказалася непадрыхтаваным перамяніць злачынную акупацыйную ўладу. Таму цемра існуе, акупацыя працягваецца.

Сытуацыя ў 1994 годзе падобная, як у 1794, калі разрывалі і захоплівалі Рэч Паспалітую. Цяпер разрываюць і захопліваюць Беларусь тыя ж пачварныя сілы.

Розьніца толькі ў тым, што ў часы Касьцюшкі на Беларусі былі яшчэ вольныя людзі, якія паўставалі за незалежнасьць і свабоду Бацькаўшчыны, кажучы: “Ня будзе маскаль пляваць нам у твар”. Цяпер жа ён плюе свабодна і вольна, “по-русски” з цынічным рогатам і ёрніцтвам. Беларусы нават не выціраюцца. “Подлое, ничтожное, рабское время”.

Будучыня Беларусі будзе залежыць ад таго, як яна пераЖыве і ці пераЖыве гэтую рабскую пару духоўнага суіцыду і сацыяльнага халуйства (выдзелена рэд.). Сон розуму нараджае пачвараў. З палітычнага сьмецьця нацыянальнай здрады вылазяць страшыдлы, якія вяшчаюць, як трэба існаваць і прадавацца, якія аплёўваюць сьвятое, не сустракаючы супраціўленьня ў подлай згодзе і ў подлым маўчаньні. Пачвары, ненавідзячыя нацыю, робяцца аўтарытэтамі, дастаткова ім толькі нешта ўсім паабяцаць. Гэта расплата грамадзтва за бездухоўнасьць, за адмаўленьне ад нацыянальных каштоўнасьцяў, ад розуму, ад свабоды. Такім грамадзтвам кіруюць паганыя людзі, злодзеі, ашуканцы, дурні, крымінальнікі і бандыты. Раба можна ашукваць вечна. І вечна будзе раб трымацца за сваё рабства.

Ідзе барацьба. Барацьба за незалежнасьць і барацьба за свабоду ўнутры нас. Але ў гэтай барацьбе ёсьць адна адзіная найвялікшая каштоўнасьць, якая мае вечны непераходзячы сэнс, якая павінна аб’яднаць усіх—гэта наша Бацькаўшчына, наша дзяржава, наша незалежнасьць. І кожны беларус, кожны вольны чалавек павінен мацаваць яе і бараніць. Будзе незалежная дзяржава—будзе будучыня, будзе ўсё.

Мы павінны ведаць гэтак жа, як Касьцюшка, Агінскі, Каліноўскі: Маскоўская імперыя, пакуль яна існуе, у якую б адзежу яна не ўбіралася—была, ёсьць і будзе ворагам нашай беларускай незалежнасьці і нашай свабоды. З гэтай і толькі з гэтай бясспрэчнай ісьціны трэба зыходзіць, будуючы нашыя рэальныя дачыненьні з Усходам (выдзелена рэд.).

Другую бясспрэчную ісьціну, якую трэба ўсьвядоміць як аксіёму таму, у каго захавалася яшчэ хоць трохі розуму—Расея ёсьць такая дзяржава, якая ніколі не была і не будзе дэмакратычнай краінай. У яе іншая прырода, іншая гісторыя і іншая—нееўрапейская будучыня. У цяперашняй Расеі адсутнічае дэмакратыя як палітычны сьветапогляд і дзяржаўная палітыка. Там няма нават дэмакратычнай апазіцыі існуючаму рэжыму. Палітычная апазіцыя ў Расеі—чырвона-карычневая. Будучыня такой дзяржавы, якая да таго ж пераЖывае развал і сацыяльна-эканамічны крызіс, можа быць толькі таталітарнай, разбуральнай і небясьпечнай для цывілізаванага сьвету. Для мяне зразумела, што захоп Беларусі, які падрыхтоўваецца і ажыцьцяўляецца зараз камуністычнымі імперскімі коламі ў Расеі і на Беларусі, стане першым крокам да вялікай глабальнай вайны. Мы можам пачуць пра гэта скора, калі толькі цені Касьцюшкі не дапамогуць пазьбегнуць бяды.

Мне ўспамінаецца апавяданьне аднаго паплечніка па ГУЛАГу нашай вялікай непараўнальнай Ларысы Геніюш. Камуністы прыгналі ў лагер некалькі вялікіх этапаў з усяго сьвету і заперлі ў вялізны барак каля тысячы чалавек. Назаўтра, калі прынесьлі гэтаму галоднаму натоўпу хлеб—адчыняюцца дзьверы і заходзяць тры крымінальнікі з нажамі. Адбіраюць хлеб і зьнікаюць. І так было рэгулярна амаль тыдзень. Трое “ўркаў” тэрарызавалі тысячны неарганізаваны натоўп, які баяўся, галадаў і цярпеў.

Але знайшлося ў гэтай рабскай чарадзе трое вольных людзей—трое эстонцаў. Яны згаварыліся і схапілі крымінальнікаў, баронячы агульны хлеб. Вось тады на злодзеяў кінуўся ўвесь барак. Іх разарвалі на часткі і выкінулі праз вокны.

У Касьцюшкі было трыццаць тысячаў свабодных людзей і зброя, якую яны ўмелі трымаць. Цяпер, праз 200 гадоў у гэтым камуністычным бараку, кіруемым крымінальнікамі, ці знойдзецца хоць тры вольныя душы?

Спадары! Для выратаваньня Бацькаўшчыны патрабуецца няшмат. Хаця б трох свабодных людзей. Ахвяруйцеся, хто свабодны, калі свабодныя яшчэ існуюць і калі вам дарагая ваша свабода.

*Ад рэдакцыі: Перадаючы гэты артыкул з рук у рукі, кожны ўнясе свой асабісты ўклад у барацьбу за вольную Беларусь.*

**16 снежня ў Віцебску пачаўся суд над беларускім паэтам Славамірам Адамовічам.**
**Існуючы рэжым судзіць БЕЛАРУСКУЮ МОВУ.**
**(падрабязнасці ў наступным нумары)**

Заява

## Сёння на Беларусі д‘ябал правіць баль.

Яго халуі пад пераможны барабанны пошчак заклікаюць усіх стаць у чаргу да "пахана" і прысягнуць яму на вернасць. Бязбожнікі ўжо пабеглі прадавацца. Для іх гэта звыклы занятак. Яны больш нічога не ўмеюць. Прадажныя аракулы ўзахлёб усхваляюць “чэсны” выбар народа.

Сумленныя людзі, што не могуць здрадзіць сабе, у разгубленнасці— як жыць далей?

Мы не прэтэндуем на ісціну ў апошняй інстанцыі, але на, наш погляд, зараз нельга гуляць па правілах гэтай крымінальнай групоўкі. Скокі д‘ябла не могуць быць вечнымі. Трэба памятаць, хто мы на гэтай зямлі. Гэта тая глеба, на якой з часам узрасце непераможны нацыянальна-вызвольны рух.

Галоўны ўрок, які атрымала 24 лістапада свядомая меншасць у Беларусі— пакуль гэтая банда ва ўладзе, выбарамі нічога змяніць немагчыма. Трэба шукаць іншыя шляхі да Беларусі.

Мы ўпэўненыя, што дзеля такой працы час вызначыць моцных лідараў.

Жыве Беларусь!

*У. Плешчанка*

*Б. Хамайда*

# ДЗЯРЖАВІКУС МАРАЗМУС

Зарэгістраваўшыся назіральнікам ад Віцебскай абласной філіі Беларускага рэспубліканскага фонда падтрымкі дэмакратычных рэформаў ім.Льва Сапегі на праводзімы 24.11.96 г. рэспубліканскі рэферэндум на ўчастку N19 Лёзненскага раёна, я апынуўся ў найскладанейшай сітуацыі.

Значная частка выбаршчыкаў, як высветлілася ў проацэсе галасавання, даведзеныя кіраўнікамі да такога стану, што прыйшоўшы на выбарчы ўчастак, каб выканаць свой грамадзянскі абавязак і ўзяўшы ў рукі бюлетэнь, не ведаюць, як ім карыстацца, каб правільна выявіць сваю волю па тым ці іншым пытанні. І назіральніку ад калектыва райвыканкама даводзілася праводзіць растлумачальную работу (без усялякай агітацыі ў той ці іншы бок), каб выбаршчыкі маглі правільна зразумець сэнс таго ці іншага пытання, вынесенага на галасаванне. З аднаго боку назіральнік нібыта парушаў заканадаўства, а з іншага—чаму мой лёс і лёс маіх дзяцей павінен залежыць ад таго, што выбаршчыкі, па сваёй неадукаванасці, накрэсляць у бюлетэнях, у большасці сваёй, як потым высветліцца, насуперак уласным жаданням.

Гора-кіраўнікі ператварылі нашае грамадства амаль ў статак, таму што толькі статкам можна кіраваць па прынцыпе:”Стой там—хадзі сюды!”, што поўнасцю здымае адказнасць за бяздарнае кіраванне, бо той, хто выканае каманду “Стаяць!”, будзе вінаваты, бо была яшчэ і каманда кудысьці там “ісці”, а хто выканае каманду “ісці” будзе таксама вінаваты, бо была і каманда “стаяць”. Нічога іншага, на жаль, нашыя кіраўнікі за апошні час не прыдумалі.

Я не хачу, каб нашы дзеці жылі ў такім грамадстве, калі на добрасумленна зароблены рубель чалавеку маглі прапанаваць толькі танную гарэлку, якая незваротна вымывае з свядомасці ўсе агульначалавечыя каштоўнасці.

І хай гэтыя кіраўнікі хоць кожны дзень праводзяць рэферэндумы, каб схаваць сваю бяздарнасць,—народу ад гэтага лепш не будзе. Час ужо вам, панове, звярнуцца тварам да сваіх выбаршчыкаў, бо ў іншым выпадку вас прыйдзецца разварочваць сілай.

У. Собалеў

*Да сяброў Віцебскага гарадскога клуба выбаршчыкаў “За дэмакратычныя выбары”.*

Шаноўнае спадарства!

У снежні 1993 года Радай клуба быў праведзены семінар “Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй”. Па выніках зробленай працы ў статут клуба была ўнесена мэта—”знішчэнне савецкай улады заканадаўчым шляхам”. Але з такой высновай не пагадзіліся гарвыканкам і ўпраўленне юстыцыі аблвыканкама і адмовілі ў перарэгістрацыі статута нашага грамадскага аб’яднання.

Зараз Лукашэнка гвалтоўным шляхам, у абыход дзеючай Канстытуцыі 1994 года, знішчыў савецкую ўладу на Беларусі. Такім чынам, практычна, адпадае выкананне гэтага пункта статута.

У сувязі з гэтым, на наш погляд, цяпер уся ўвага сяброў клуба павінна быць засяроджана на выкананні першай мэты статута: “садзейнічанне нацыянальна-патрыятычным сілам ва ўмацаванні незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у іх барацьбе супраць ідэалагічнай, палітычнай, эканамічнай і ваеннай пагрозы з боку іншых дзяржаў”. Бо існуе рэальная пагроза, што Лукашэнка такім гвалтоўным шляхам знішчыць і незалежнасць нашай краіны.

*Рада Клуба*

*Ськівмунт Савічанін:*

*Што расеец які, згодны з маёй незалежнасьцяй, будзе мне братам, але ўсялякі, хто хоча маёй няволі— ворагам.*

Дык што жа мы маўчым, браты,
Калі маскаль рагоча,
Нібы ня ведалі заўжды,
Чаго пачвара хоча?!

Дык дзе чакае зброя нас
Ліцьвінскага гатунку?!
Гэй, апранайма ў хуткі час
Паўнак бітны рыштунку!

Мы зброю нашаю нясем.
У сэрцах зьніч зайграя.
М[illegible]ву пагонім, разьдзярэм,
Як ваўкалакаў зграя.

І будзе нашая зямля
Сягаць былых прастораў.
А паспалітая змага
Забура сталы сорам.

І месты нашыя ізноў
Фартэцамі паўстануць,
Супроць кацапаў-прусакоў
Мацункам славы стануць!



Апошні сэт.

# ЗМАГАННЮ ЗА БЕЛАРУСЬ ТРЭБА ВУЧЫЦЦА

Апошні рэферэндум паказаў, што ў Беларусі шляхам выбараў можна выбіраць паміж няволяй добраахвотнай і няволяй прымусовай. Усе выбары і рэферэндумы, пачынаючы з 1995 года іншае магчымасці выбаршчыкам не давалі. І, калі да рэферэндума 24 лістапада ўлада надавала гэтым мерапрыемствам выгляд законнасці і спаборніцтва думак, то на гэты раз усё зроблена цынічна і нахабна.

У такіх умовах існаванне шматпартыйнасці ў нашай краіне страчвае сэнс.

Хто з кім будзе спаборнічаць? Перад кім выказваць свае думкі, калі радыё, тэлебачанне, друк, фінансуючыся за кошт жыхароў рэспублікі, распальвае ў іх варожасць да ўсялякага іншадумства, агрэсіўна-жывёльныя інстынкты. Распальваецца тое, ад чаго чалавецтва на працягу ўсяго свайго свядомага існавання імкнецца пазбавіцца шляхам культуры і асветы. Тут Лукашэнка пераўзышоў нават вопытнага ў такіх справах Адольфа Гітлера. Пры тым Нямеччына хоць і перажыла пяць рэферэндумаў, але не дадумалася галасаваць за нікім не кантралюемую (фактычна крымінальную) сістэму фінансавання. А беларусы, падбухтораныя Лукашэнкам, зрабілі гэта. Як кажуць, самі сябе высеклі.

Каментарыі залішнія.

Такое маглі зрабіць толькі страціўшыя розум альбо канчаткова абалваненыя прайдзісветам людзі.

Няўжо яны ў стане былі разабрацца ў прапанаванай Канстытуцыі?

Вядома, не.

Лукашэнка правёў над беларусамі жудасны эксперымент: выставіў іх на пасмех усяму свету дзеля таго толькі, каб даведацца, верацъ яму яшчэ альбо не. Зрабіў так, як робіць у турме пахан, які дзеля падтрымання свайго іміджу перыядычна выбірае ахвяру. Зрабіў, каб паказаць усяму свету, што беларусы самастойна нічога не вартыя.

Праз некалькі месяцаў Лукашэнка павядзе нас у палон да расейскіх "міратворцаў", якія адыграюцца за страту Чачні.

Ельцыну ды Чарнамырдзіну трэба апраўдацца перад сваім электаратам за вайсковую паразу. Яны будуць казаць: "Мы вось адпусцілі нядобрых чачэнцаў, затое далучылі да сябе рахманых і пакорлівых братоў-славянаў беларусаў"

З гэтага стану можна выйсці толькі супольнымі намаганнямі той меншасці, што разумее, у якой бядзе апынулася Беларусь.

Сёння не наспеў яшчэ час гэтай меншасці дзяліцца на лібералаў і сацыял-дэмакратаў, хрысціянскіх дэмакратаў і аматараў піва.

Не да піва сёння і сацыяльнай абароны, захаваць бы толькі чалавечую годнасць!

Ні Лукашэнка, ні яго атачэнне, здатнае на парушэнне законаў, каб дагадзіць яму, і добраахвотна ўладу не здадуць. Добра, калі яны пакінуць свае пасады ў выніку ўсенароднага націску з патрабаваннем іх адстаўкі і не ўжывуць зброю. Можа адбыцца так, што зброю з іх рук прыйдзецца выдзіраць. Сённяшнія рэаліі менавіта такія.

Вельмі рана мы паверылі ў дэмакратыю. Яна, аказваецца, патрабуе немалых намаганняў дзеля сваёй абароны. Мала пракрычаць "Жыве Беларусь!" ці паплакацца ў насоўку аб каханні да Радзімы.

Трэба навучыцца за яе змагацца.

Сёння ў нас больш за мільён беларусаў, якія ніколі не падтрымаюць ідэю страты беларускай дзяржаўнасці. Гэтыя людзі, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, не паддаліся на маразматычную балбатню Лукашэнкі аб славянскім адзінстве і адраджэнні былога СССР.

Але не давяраць балбатуну яшчэ не значыць захаваць дзяржаўнасць, абараніць ад яго даверлівых і саміх сябе.

З гэтага мільёну толькі некалькі тысячаў змаглі выйсці на плошчы гарадоў з пікетамі ў абарону закону і Канстытуцыі. А гэтага ж нават ніхто не забараняў, і сіла супраць удзельнікаў пратэсту не ўжывалася.

Відаць, надышоў час, калі кожны, хто разабраўся ў становішчы на Беларусі, павінен адкрыта сказаць сваё "не" авантурысту і яго палітыцы. Гэтым людзям ёсць сэнс стварыць адзіны вызваленчы рух.

"Круглыя" сталы ўжо не дапамогуць.

*У. Плешчанка*




Мал. Лысака Ведзьмагорскага.

# Казкі Р.Кіплінга

## (беларускі варыянт)

Давялося мне аднойчы, калі на ўсёй Беларусі толькі пачынаў набіраць абароты злавесны "махавік" датэрміновага галасавання, пастаяць побач з пікетчыкамі, якія размясціліся ля "сіняга" дома ў Віцебску.

Актывісты Рады "Выбар" БНФ "Адраджэньне"— Ул.Плешчанка, Б.Хамайда і Ю.Мароз пад час правядзення гэтай акцыі папярэджвалі прахожых аб набліжэнні дыктатуры, якую мы можам адчуць на ўласнай скуры, калі пасля рэферэндуму наш прэзідэнт атрымае неабмежаваную ўладу.

Мяне вельмі ўразіла не сама акцыя пратэсту, а адносіны да яе пэўнай часткі прахожых. Пакуль паблізу не было міліцыянтаў,—акцыя праходзіла без эксцэсаў. Пікетчыкі спакойна гутарылі з падыходзячымі да іх людзьмі, прапаноўвалі свабодную прэсу.

Але ў той момант, калі да пікетчыкаў наблізіўся нарад міліцыі,— абстаноўка імгненна змянілася.

Такое нават у кашмарным сне і то не кожны пабачыць.

Іх акружыў натоўп (чалавек дванаццаць раз'юшаных прахожых) і ў бок пікетчыкаў панесліся абразы і лаянка, на што, дарэчы, міліцыянты не звярнулі аніякай увагі.

Шыкоўна апранутыя дамы з несхаванай пагардай звярталіся да ўдзельнікаў пікету, а некаторыя мужыкі з натоўпу, у замызганай вопратцы і на добрым падпітку, спрабавалі дацягнуцца сваімі дрыготкімі рукамі да плакатаў, сарваць якія ім не дазвалялі іншыя людзі, якія з разуменнем ставіліся да пікетчыкаў. Адным з такіх аднадумцаў і сяброў быў і Мірон (аўтар гэтых радкоў), якога прэса ахрысціла няўлоўным.

Я нізка схіляю галаву перад братамі па барацьбе за лепшую долю свайго народа за іх мужнасць і вытрымку.

У час правядзення сваіх акцыяў па вяртанні беларускаму народу яго гістарычнай сімволікі я рызыкую сваім жыццём, бо працую без усялякай страхоўкі на вялікай вышыні. Але мая рызыка не йдзе ні ў якое параўнанне з тым, што даводзіцца перажываць тым, хто стаіць у пікетах пад скіраванымі позіркамі двух дзесяткаў ашалелых ад нянавісці вачэй. І калі я гляджу проста ў вочы адной толькі смерці, то яны нават і не ведаюць, з якога боку чакаць бяды.

Але ў рэшце рэшт міліцыянты, не згледзеўшы ніякай крамолы ў дзеяннях пікетчыкаў і не ведаючы, што побач з імі стаіць Мірон, з'ехалі кудысьці на машыне. І ў гэты самы момант (хоць стой, хоць валіся) перастаў існаваць і раз'юшаны натоўп. Людзі проста разбягаліся хто куды. Усё гэта міжволі нагадала мне паводзіны шакала Табакі (калі хто чытаў казку пра Маўглі), які мог паказаць зубкі і паздзекавацца з іншых толькі ў прысутнасці тыгра Шэр Хана, а калі гаспадара не было паблізу, даводзілася гэтаму шчанюку падціскаць хвост і нізка схіляць галаву перад усімі.

Я добра разумею шыкоўна апранутую жанчыну, якая вельмі ўжо абуралася, бо яна ведае, што, калі да ўлады прыйдуць сумленныя людзі, такім, як яна, ніхто не дазволіць рабаваць свой народ. А што тычыцца мужыкоў у замызганай вопратцы, дык яны проста даведзеныя ўладай да стану бязвольных рабоў, і чым больш іх будуць прыгнятаць, тым больш яны будуць ухваляць сваіх прыгнятальнікаў.

Мабыць, хопіць нам ужо жыць, падціснуўшы хвасты, і ад гэтага сабачага жыцця паказваць адно аднаму зубкі. Можа, пара ўжо брацца за будаўніцтва чалавечага жыцця. Калі самі не паспеем пажыць як людзі, то хай хоць дзеці нашы зведаюць, што такое сапраўднае жыццё.

*Мірон*

# З турэмнага жыцця паэта

18 лістапада на чарговым спатканні з маці ў віцебскім следчым ізалятары Славамір Адамовіч спрабаваў перадаць ёй верш, напісаны ў турэмнай камеры.

Маці ўзяла аловак і пачала перапісваць. Вось першыя радкі:

Канчаецца лета. Яблычны спас.  
Пра Афрыку мараць птушкі.  
Ах, як на волі прыгожа ў Вас,  
Ах, як за кратамі скрушна.

У Вас там кажуць пра новы стыль  
("Прадай Радзіму" назвалі )...

Болей яна занатаваць не паспела, бо падыйшоў ахоўнік і вырваў з рук паэта ліст паперы з вершам.

* * *

Пасля рэферэндума паэт адседзеў пяць сутак у карцэры. Па афіцыйнай версіі— за парушэнне рэжыму.

Па нашых звестках— за тое, што размаўляў у сценах СІЗО па-беларуску і агітаваў непаўналетніх сукамернікаў за Беларушчыну.

# ...Я ДУМАЮ АБ БЕЛАРУСІ.

*На Беларусі зараз сьнежань. Завірухі, маразы й палітычныя працэсы. Ледзянеюць ваконныя шыбы і душы людзей.. І раптам—Данчык. Імя цёплае, як калядная зорка. Ён прыехаў нас адагрэць...*

—Як да Вас правільна зьвяртацца—Богдан ці Багдан?

*Багдан.*

—У 1989 годзе Вы прыязджалі з-за акіяна, зараз—з Прагі. Ці стала за гэтыя гады Беларусь бліжэй, даражэй?

Радзіма не магла стаць даражэйшай, чым была, але яна зараз бліжэй у геаграфічным плане.

—Ці плануеце Вы на наступны год прыняць удзел у зьезьдзе Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына"?

Зараз я не магу сказаць напэўна. Але, калі гэты зьезд адбудзецца, думаю, што буду прымаць удзел.

—Віцебск—ці не самы змаскалены горад у Беларусі. Як Вы пачуваецеся тут?

Ня ведаю нават, як сказаць. Мне таксама казалі, што гэта самы зрусіфікаваны горад з тых, што я наведаў. Але ж, тым не менш, мяне тут сёньня вельмі добра віталі. Гэта аб нечым сьведчыць.

—Чаму гэтым разам тэлебачаньне не трансьлявала Вашыя канцэрты?

Я ня ведаю. У Менску я ня мог нават знайсьці залі для выступленьня, акрамя як у філармоніі. Гэта цудоўная заля, але шматлікія тэатры мне адмовілі.

—Ня думаеце, што гэта зьвязана з сітуацыяй на Беларусі?

Зразумела, што зьвязана. Многія ў адкрытую казалі, што гэта з палітычных прычынаў.

—У нас зіма, і ня толькі з-за маразоў... Ці верыце Вы ў вясну для Беларусі?

Так, я веру ў вясну, і ў гэтым сэнсе таксама. Веру ў вясну, веру ў адлігу, як у песьні "Крыніцы" на верш Сержука Сокалава-Воюша:

*Надыдзе раньне сьвежае*  
*І новы дзень абудзіцца.*  
*І зазьвініць капежамі,*  
*І збудзецца, і збудзецца.*

—Дык жыве Беларусь?

І будзе, будзе жыць!

—Хацелі б Вы яшчэ калі-небудзь наведаць Віцебск?

Хацеў бы прыехаць сюды ізноў. Але, відаць, не зімой.

—Чакаеце сваю беларусачку?

Так, яшчэ чакаю.

З Данчыкам гутарылі  
Л. Сіманёнак і С. Серабро

Дарагім  
чытачам  
"Выбару"  
з найлепшымі  
пажаданьнямі  
ад Данчыка

# 25 НОЯБРЯ

С утра падал снег, к полдню дожди и слякоць.  
Конец ноября, но всё это где-то там  
Между стеною и завтра, так хочетя плакать,  
закрываю глаза.

Позади девять месяцев, с оскалом  
железной решётки  
холуйской жестокостью, над каждой строкой  
в докладной,  
усердно сопящяй .Таковы, знать издержки работы,  
под хозяйской стопой.

Страх и утроба нынче сгибают услужливо спины.  
Да, время не то, не опдкрасить себя оправданьем.  
Впрочем, чему удивляться? Под новой дубиной,  
слышится громче, "сплочённое" веселикованье.

Спасибо, какому не знаю по имени, Богу.  
Что жизнь научил, до боли сжимать кулаки,  
И видеть свободу строки, не с похлёбкой грошовой,  
а с горстью любви.

Можно осудить человека, но стихи никогда  
не осудишь.  
Всякое, после, молча стоит за спиной.  
Время тихо зовёт, и идут неподкупные судьи  
и ведут свой конвой.

*Головач*

Адрас рэдакцыі: 210601, г.Віцебск, вул.Гогаля, 17.
Хатні тэлефон рэдактара--33-52-41
Набрана і звярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ
Надрукавана ў друкарні Васіля Цяпінскага

"Выбар". Заснавальнік Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары".
Рэдактар Барыс Хамайда
Наклад 499 асобнікаў
Замова--301
Падпісана да друку 26.12.96 г.
Кошт па дамоўленасці